# Беларусы на „Славянскай Выстаўцы" у Латвіі.

Як ужо ведама нашым чытачом, у Рызе, сталічным месьце Латвіі, у сярэдзіне красавіка адбылася „Славянская Выстаўка", у якой прынялі ўчасьце ня толькі латвійскія беларусы, але і віленскія — у асобе Беларускага Навуковага Таварыства, паслаўшага экспонаты з Музэю ім. Ів. Луцкевіча. Выстаўка ўжо закончылася, і Б. Н. Т-ва атрымала з Рыгі справаздачу аб ёй, з каторае і мы падаем жменю інфармацыяў.

„На выстаўцы былі чатыры аддзелы: Беларускі, Вялікарускі, Баўгарскі і Украінскі. Другіх славянскіх нацыяў арганізатары не запрасілі, бо праектавалі сьпярша зладзіць „Русскую" выстаўку, але ў апошні мамэнт надумаліся перастроіць яе на „Славянскую", бо выстаўка „расейскае старасьветчыны" рабілася ўжо тры гады ўзапар і страціла ў вачох публікі цікаўнасьць. З гэтае прычыны і беларусам прышлося рыхтавацца да выстаўкі, быццам на пажар: зьбіраць экспонаты насьпех, браць усё тое, што можна было знайсьці ў Рызе ды ў Дзьвінску, не пасьпеўшы дайсьці да беларускае вёскі, бо на гэта ня было ўжо часу.

„Ня гледзячы на кароткі час, усё-ж такі латвійскія беларусы, з дапамогай Віленскага Музэю, здолелі зрабіць свой аддзел даволі цікаўным і паказальным.

„Вялікарусы выставілі хатнія гаспадарскія рэчы і вялікую лічбу ручнікоў. Гэта была запраўдная народна-нацыянальная падстава ўсяго іх аддзелу, бо-ж да яе яны награмадзілі ўсялякіх прамысловых (фабрычных) вырабаў „пад вялікаруса" (парцэлянавыя самавары фабрыкі Кузьнецова ў Рызе, эмаль па золату і серабру з орнамэнтамі, якія стылізаваны пад „русскій дух", вопраткі артыстак тэатральнае расейскае трупы пад „баярыню" з парчы, даволі многа рэзаных у майстроўні Ценішавай у Смаленску каўшоў і вялікіх конаўцаў, якім мейсца было-б справядлівей у Беларускім аддзеле, ляляк, вышывак і г. д.). Пераважная большасьць рэчаў у вялікарусаў выстаўлена была дзела прадажы асобамі і фірмамі, якія з вырабу іх жывуць.

„Беларускі аддзел складаўся з рэчаў, сабраных у Рызе (кніжкі ў беларускай, расейскай, латышскай і нямецкай мове аб беларусах, беларускія выданьні — навуковыя, навучальныя і літэратурныя, тканіны, гэрбы былых беларускіх ваяводзтваў, партрэты пісьменнікаў, дыяграмы, карта Беларусі), — з рэчаў Дзьвінскае Дзяржаўнае Беларускае Гімназіі (дуда, узоры набіванкі, некалькі невялічкіх кавалачкаў слуцкіх паясоў, вопраткі, орнамэнты разьбы і вышыўкі), а затым з вядомых нам рэчаў Музэю ім. Івана Луцкевіча з Вільні.

„Баўгарскі аддзел складаўся з рэчаў, выстаўленых баўгарскаю мастачкаю Шышковай, якая прывязла прыпадкова ў Рыгу некалькі дываноў, кашуль з шоўку і вопратку, стылізаваную пад баўгарскую (дужа дарагая рэч, вышываная шоўкам на шаўковай тканіне), рад фатаграфічных здымкаў і паштовак з тыпамі баўгараў ды баўгарскія вышыўкі (альбомы).

„Украінскі аддзел быў з'арганізаваны самымі вялікарусамі бяз учасьця ўкраінцаў, а таму і называлі яго „Малорусскім", і нічога характэрнага ўкраінскага ў ім ня было, апрача плахты.

„Тое, што ў Беларускім аддзеле нічога не прадавалася, было з аднаго боку нібы і добра, бо рабіла выстаўку больш паважнай, і публіка ўважліва слухала тлумачэньні; але — з другога боку — мо' гэта было і блага, бо быў попыт і на паясы, і на характэрнейшыя гунькі, і на малюнкі-зарысоўкі грам. Я. Драздовіча, а прадаваць іх было нельга. Калі-б у Вільні хто ўзяўся за беларускія вырабы дзеля прадажы, дык можна было-б з'арганізаваць іх збыт.

„З віленскіх рэчаў найбольшае ўражаньне зрабілі зарысоўкі і разьба з дрэва (хвалілі і тканіны), а з мяйсцовых экспонатаў найбольш цікавіліся дудой, кнігамі (дзівіліся, скуль у беларусаў гэтулькі кніжак?), картай Беларусі, пісьменьнікамі і гісторыяй беларускага народу.

„Адведывалася выстаўка сярэдня, але вынікамі яе можна быць здаволенымі, бо агулам яна зрабіла добрае ўражаньне, як гэта відаць і з расейскае і з латышскае прэсы.

„Шкада, што беларусы ня мелі магчымасьці выставіць больш разьбы, пляцёнак і г. д. Але ўсё-ж зацікаўленьне беларусамі аддзел наш значна падняў сярод тутэйшага грамадзянства і, здаецца, гэта дасьць і пэўныя карысныя для нашае справы вынікі".

---

разам з сабой у прорву і манархію, на ўсходзе Эўропы — ў Румыніі яе няменш лёгкамысны і рызыканцкі кароль Кароль яўна падрыхтоўвае, як пішуць францускія і англійскія газэты, новую спробу дыктатуры...

Гэтыя газэты пішучь, быццам кароль Кароль як толькі „высьвятліць дакладна для сябе і для краю немагчымасьць стварэньня сталага парлямэнцкага ўраду, дык сам назначыць „габінэт, зложаны блізу з адных толькі генаралаў — з маршалам Прэцану на чале!" Ясна, што фактычным дыктатарам будзе тады сам кароль. Цікаўна падчыркнуць, што гэты прынц Кароль, якога за яго „любоўныя авантуры" пракляў яго бацька, пазбавіў трону ды выгнаў з краю — без права павароту, быў „рэвалюцыйна" прывезены назад у край правадырамі якраз тэй самай „нацыяльна-сялянскай партыі", якая, як здабыўшая вялізарную большасьць на выбарах, панавала данядаўна цалком у парляманьце і ў габінэце, дый якую толькі што рашуча адсунуў ад улады той самы кароль, якому яна вярнула трон!.. Характэрна для румынскага „парлямэнтарызму" і тое, што правадыры гэтай маючай большасьць у парляманьце „ўрадавай партыі" начале з Маніу — так лёгка й ахвотна ўступілі па загаду караля сваю ўладу іншым палітычным групам, якія былі цалком разьбіты на выбарах! Пры тым трэба падчыркнуць, што якраз гэтыя апошнія выбары былі першымі, якія адбыліся запраўды-ж зусім „чэсна й чыста" ў Румыніі, дзе заўсёды ўрад „робіць выбары" здабываючы сабе „напэўняка" згары абсталяваную большасьць, няменш як 70—80 проц...

Дык вось — толькі што стварыў з даручэньня караля — новы урад праф. Іорга, правадыр зусім дробнай і бяссільнай групкі ў Сойме; першым чынам ён і мае... зрабіць новыя выбары, каб „мець большасьць у парляманьце", як гэта робіць традыцыйна ў Румыніі кожны шануючы сябе ўрад...

Парыжская прэса радзіць румынскаму каралю „уважней памятаць біографію гішпанскага Альфонса".

Трэба ўспомніць, што зусім ня „румынскі народ", але ў сутнасьці выканаўцы волі Францыі, найбольш тут уплывовай, прывязьлі з Парыжу ў Бухарэшт на аэрапляне прынца Кароля, каб зрабіць яго каралём. Задачай, якую, як лёгка дагадацца, ўскладала Францыя (дый Англія) на караля, як „добрага вайсковага спэцыяліста", зьяўлялася— рэарганізацыя румынскай арміі і наагул паднясьце ваеннай сілы Румыніі, як важнага зьвяна ў наступна-абаронным бар'еры — „на ўсходзе".

Калі цяпер гэты „ваенны спэцыяліст" увайшоўшы ў самы смак салодкага каралеўскага жыцьця, рыхтуе авантуры й дыктатуры і выклікае такі страшэнны непакой у Францыі, Англіі, дык ясна, што яны ўжо зразумелі сваю абмылку, і тую небясьпеку, якой пагражае гэтая абмылка ўсей справе „румынскага прасла" ў усходнім плоце — ад Балтыцкага мора да Чорнага.

### Урадавы крызіс у Баўгарыі.

У Баўгарыі распачаўся ўрадавы крызіс. Пасьля адстаўкі габінэту Ляпчэва кароль Барыс прапанаваў па чарзе місію тварэньня новага ўраду правадыром групаў, блізкіх да папярэдняга ўраду. Але ніхто з іх ані Цанкаў, ані Бураў ня здолелі стварыць ураду. Тады кароль зьвярнуўся да групаў больш радыкальных, блізкіх да знамянітай рэвалюцыйнай Сялянскай партыі, панаваўшай у Баўгарыі ў першыя гады пасьля вайны, а пасьля разгромленай буржуазнымі партыямі Цанкава й інш. Такім чынам на чале новага ўраду мае стануць Малінаў, закляты вораг Цанкава й Ляпчэва, які мае запрасіць да супрацоўніцтва ў сваім габінэце правадыроў Сялянскай партыі.

Сялянская кляся ізноў зусім натуральна падыходзіць да палітычнай улады ў Баўгарыі, дзе складае звыш 80 проц. усяго насяленьня.

Паводле апошніх весткак і Малінаў адмовіўся ад тварэньня ўраду. Справа — ў тым, што, кароль зажадаў, каб Малінаў стварыў урад з прадстаўнікоў усіх галоўных партыяў. Малінаў рашуча адмовіўся працаваць поруч з Цанковым, Ляпчэвым і інш, але згаджаецца фармаваць урад, калі кароль пакіне яму вольную руку ў выбары міністраў.

### Рэвалюцыя на Мадэры усе яшчэ трывае.

Паўстанцы на востраве Мадэра рашуча адкінулі ўльтыматум (тэрміновы загад) партугальскага ўраду—зложыць аружжа. Наадварот, — яны рыхтуюцца да сьмяротнай барацьбы за поўную незалежнасьць... Газэты пішуць, што як гэта ні дзіўна, гэты малы востраў зусім можа не баяцца ваеннай сілы партугальскай дзяржавы: ён мае добрую берагавую артылерыю, а дзяржава мае дрэнныя старыя „браняносцы", якія маюць „у міжнароднай марской мове ганаровы назоў „калёшаў".. Але ў Партугаліі наагул усе рэвалюцыі маюць асаблівы фарсавы характар. Але сумны для Партугаліі „камізм" гэтай мадэрскай рэвалюцыі яшчэ і ў тым, што берагавая артылерыя вострава мела мэтай бараніць востраў ад ненасытна-прагавітых апэтытаў Англіі, цяпер бамбардаваць сваю збунтаваную калёнію Партугалія ня можа—ня толькі таму, што мае „старыя калёшы"—замест ваенных караблёў, але й таму, што блізу ўсе дамы ў „сталіцы" партугальскага вострава належаць да... Англійцаў. Дык бамбардаваньне сталіцы пэўне-ж адразу выкліча рашучы пратэст з боку Англіі.

Дык хіба й цяпер, як і ў кожнай чарговай „рэвалюцыі" ў Партугаліі, якая адбываецца блізу штогодна, выдатную, а можа, і фатальную для партугальскай улады на Мадэры, ролю іграе якраз англійская рука...

Не дарма-ж англійскія купцы скупляюць з гары штогодна ўвесь запас слаўнага віна „Мадэры", якое так любіць Англія...

---

## Кароткія навіны.

— Паводле афіцыяльных вестак, Корпус Пагранічнай Стражы за 1929 і 1930 гады сваей працы (пераважна на ўсходнім пагранічча з радамі) — зьліквідаваў 85 шпіёнскіх арганізацыяў — з больш, як 300 шпіёнамі, 40 дывэрсыйных бандаў і 144 контрабандныя афэры, у іх ліку — 130 на пагранічча з Літвой.

Адным словам — «жывая граніца».

— Польскія прамыслоўцы з вялікай помпай прыняты прадстаўнікамі Радавай улады ў Маскве. Нар. Камісар замежнага гандлю Розэнгольц выдаў у чэсьць іх банкет, у часе якога гаспадар і польскія госьці абмяняліся „сэрдэчнымі прамовамі".

— Слаўны правадыр англійскіх лібэралаў, Льлёйд-Джордж, выбіраецца ў падарожу ў СССР, каб асабіста паглядзець, як выконываецца знамянітая бальшавіцкая «пяцілетка». Льлёйд-Джордж, як ведама, быў першы з эўропэйскіх палітыкаў (ня лічучы нямецкіх), які заявіў, што «з бальшавікамі трэба гандляваць, бо-ж гандлююць і з людаедамі».

— 20-IV адбылося ў Лёндане першае паседжаньне так званага «Камітэту Трох», які складаецца з сяброў Рады Лігі Нацыяў і пераглядае сьпярша ўсе скаргі з боку меншасьцяў, дэцыдуючы, якія падаць на разгляд Рады, якія не.

Камітэт, разглядзеўшы скаргі ўкраінцаў з Усходняй Галічыны на польскі ўрад —у зьвязку з так-званай «пацыфікацыяй», пастанавіў затрэбаваць ад польскага ўраду дадатковыя высьвятленьні. Як ведама, скаргі гэтыя маюць быць разгледжаны Радай у часе траўнёвай яе сэсіі.

— У Жэнэве рыхтуецца міжнародная конфэрэнцыя, якая мае задачай залажыць міжнароднае таварыства зямельнага крэдыту, ці Міжнародны Зямельны Банк. Сябрамі Банку маюць быць 8 аграрных краінаў Эўропы; апроч іх, зацікавіліся справай Францыя, Італія і Швайцарыя. Стрымана адносіцца да справы пакуль што Нямеччына. Дый — нічога дзіўнага, бо-ж гэтае аб'яднаньне аграрных дзяржаваў — адзін з спосабаў, якімі Францыя хоча бароцца з Нямеччынай за «гэгэмонію» у Эўропе...

— З Амэрыкі ідуць усхваляваўшыя ўсе земляробскія дзяржавы весткі, быццам амэрыканскія «хлебныя каралі» маняцца кінуць у Эўропу запасы ў 270 мільёнаў бушэляў пшаніцы па цане напалову танейшай, як кошты прадукцыі.

Гэта, зразумела, канчальна зруйнуе збажовы рынак у Эўропе.

Весткі гэтыя афіцыяльна запярэчыў амэрыканскі міністар земляробства, а дасканала паінфармаваныя амэрыканскія газэты цьвярдзяць, што гэта — праўда.

— Чарговая канфэрэнцыя Малой Антанты (палітычны хаўрус Чэха-Славацыі, Румыніі і Югаславіі) назначана на 4 траўня — ў Букарэшцэ (Румынія).

— Грэцкі прэм'ер Вэнізэлёс заявіў журналістам, што новы прэсавы закон ня будзе зьмяшчаць у сабе нічога, што-б нарушала поўную вольнасьць прэсы. Паны-ж журналісты самі хай парупяцца аб тым, каб ачысьціць прэсу ад асабістых лаянак, паклёпаў ды парахункаў. Сам прэм'ер запрапанаваў сябе за пачэснага старшыню такога саюзу журналістаў.

— Гішпанскі рэспубліканскі ўрад прызнаны ўжо цэлым радам вялікіх і невялікіх дзяржаваў сьвету: Англіяй, Францыяй, Амэрыканскімі Штатамі, Польшчай, Аўстрыяй, Грэцыяй і інш.

— Выбары ў гішпанскі ўстаноўчы сойм маюць адбыцца паміж 21 і 25 чэрвеня. Права выбіраць будуць мець усе грамадзяне, якім скончыўся 21 г., а права быць выбранымі — тыя, хто лічыць ня менш 23 гады.

— Англійскі ўрад даў згоду на пабыт «караля» Альфонса ў Англіі, але толькі на кароткі тэрмін. Сталае пасяленьне ў Англіі будзе дазволена «каралю» толькі пасьля яго поўнага адрачэньня ад трону.

— Карыстаючыся ўнутранымі забурэньнямі ў Гішпаніі, ваяўнічыя плямены гішпанскага Марокка, слаўныя рыффэны і інш., рыхтуюць новае паўстаньне. Гэтыя рыффэны яшче нядаўна — ў працягу 2—3 гадоў — трымалі ў страху гішпанцаў дый прагналі-б іх цалком з Марокка, калі-б не „шляхотная" дапамога з боку Францыі, перапалоханай за лёс свайго панаваньня ў Афрыцы.

— Побач з паўстаньнем у рэспубліцы Нікарагуа — пачалося паўстаньне і ў суседняй рэспубліцы Гондурас. Але ўрадавыя войскі хутка разьбілі паўстанцаў, якія аднак-жа яшчэ маюць раскіданыя сілы ў краі.

— Бэльгійскі Ўрад распачаў працу над нішчэньнем вялізарнай масы нямецкіх марак, пакінутых у Бэльгіі акупацыйнымі ўладамі ў часе вайны. Уся маса гэтых, страціўшых вартасьць марак — на суму 3.864 с паловай мільёнаў — важыць 137.870 кіляграмаў ды займае прастор у 400 кубічных мэтраў!

Бэльгійскі ўрад прадаў гэтыя маркі фабрыцы пакавальнай паперы дзеля перапрацоўкі на паперу.

— У Бэрліне скончыўся сэнсацыйны працэс нейкага Кюртэна, нячувана жорсткага забойцы. Кюртэн забіў 9 жанчын і малых дзяўчынак, апроч таго ён 7 разоў рабіў замах на дзяўчат рознага

